**— Хочаш у рай -- выбірай! —**

# З'есці яблык ніколі не спознішся

Нявіннасць... У мінулым яна была ў вялікай пашане і з'яўлялася прадметам гонару юнакоў і дзяўчат. У наш час маладыя людзі разглядаюць яе у большасці сваёй, як нейкую недарэчнасць. Яна нібыта "хвароба", і хворы на яе "пацыент" імкнецца як мага хутчэй знайсці сабе адлаведнага "доктара" або "доктарку", каб прайсці неабходны курс сэксатэрапіі. Добра толькі, што такія паслугі ў асноўным бясплатныя, і іх можа аказаць любы "ўрач", і дыплом аб адукацыі яму зусім не патрэбны. А калі хворая падыдзе да справы "з розумам", то не выключана і атрыманне пэўнай грашовай сумы, і, магчыма, куды большай за тую, якая звычайна прапануецца ў такіх выпадках "начным чараўніцам".

І колькі разоў даводзілася чуць ад сваіх знаёмых "проста хлопцаў", што прамянялі іх каханне і надзеі на "тоўстыя кішэні". Дык калі каханне прадаецца, што казаць пра нейкую нявіннасць...

Мне здаецца, і паняцце нават пагражае сёння знікнуць сярод моладзі як недарэчнае.

Чаму ж так атрымліваецца?

Вельмі распаўсюджана думка, што сапраўднага сяброўства паміж прадстаўніцамі слабага полу не існуе. Незразумела толькі, чаму ж яны часцей за ўсё развітваюцца з нявіннасцю пад уздзеяннем захапляльных расказаў сваіх сяброўак. Ім становіцца цікава, як "гэта" атрымаецца ў іх саміх, бо, па словах прыяцеляк, "гэта" не так ужо і дрэнна. Тым больш, што шматлікія "юныя жанчыны" пасля некалькіх начэй з мужчынам лічаць, што спазналі ўсё жыццё. Хаця, як высветлілася, большасць з іх займаецца каханнем толькі дзеля таго, каб адчуваць сябе дарослай. Потым разумееш, што каб стаць сапраўднай жанчынай, трэба шмат яшчэ чаго. Спачатку каханне і жаданне, а потым што каму па душы: цішыня, рамантычная абстаноўка, вольнай кватэра, прырода, дзень ці ноч...

У хлопцаў усё па-іншаму. У большасці вядомых мне выпадкаў, першы раз гэта адбывалася з жанчынамі значна старэйшымі і да таго ж пабранымі шлюбам. І не сакрэт, што ў некаторых кабет ёсць прагнае жаданне "вучыць каханню" няспелых юнакоў. А ім і добра -- ні табе жаніцца ў выпадку чаго не трэба, і "уломваць" неабходнасці няма. Не тое што гэтых "цнот" з паралельнага класа. Ды і небяспечнасць розных хвароб ад кахання максімальна зніжана. А да іншых шчасце прыходзіць "па чарзе", не бяда, што ў той час, калі "адбываецца дзеянне", ты можаш быць далёка не першым...

Вельмі цікава было мне, як ставяцца сённяшняя "дужая палова" да дзявочай нявіннасці. Як высветлілася, адным усё роўна, а іншыя мяркуюць так:

**Дзіма, 23 гады. Здзівіўшыся майму пытанню, адказаў:**

-- А такія што, яшчэ засталіся? Тады яна або вельмі маладая, або святая. Каб я такую сустрэў, то я пераканаўся б у гэтым, разумееце як... А потым, калі яна не падманула, то абавязкова б ажаніўся.

-- А калі не кахаеш? Як будзеш з ёй жыць?

-- А што з таго, я ж не дзеля кахання жанюся, а дзеля жыцця. Але усё можа стацца, і, магчыма, якраз такая пасля замужжа не спыніцца на дасягнутым, а пойдзе далей, хапаючы злосна тыя часіны жыцця, якія прапусціла, будучы "дзяўчынай нявіннай".

**Алег Б., 25 год.**

-- Шчыра кажучы, у мяне да гэтых нявінніц, асабліва, каму "за дваццаць", адносіны ну зусім адваротныя. Калі я пра такую даведваюся, дык мне здаецца, што ёй увогуле ніхто не патрэбны, і яна займаецца сама з сабой нечым вельмі непрывабным. А інакш як можна выжыць? І наогул, лепей мець справу з жанчынай свядомай. А калі здарыцца так, што я пакахаю, гэта, канешне, малаверагодна, але ж бывае, тады мне будзе ўсё роўна, хай сабе хоць путана з працоўным стажам.

### "МАНАЛОГ АПОШНІХ НЯВІННІЦ..."

**Таццяна С. Выхавацелька ў дзіцячым садку.**

-- Выпадкаў страціць нявіннасць было вялікае мноства. Але ці ўжо прынцыпова, ці па звычцы, неяк усім адмаўляла. Цікава было глядзець, як мяне малілі, калі страчвалі ўсе надзеі "угаварыць" ласкамі. Канешне, самой пасля гэтага было складана, але я суцяшала сябе думкамі пра тое, што не вядомы мне ні цяжарнасць, ні хваробы. А ў адносінах з хлопцамі адразу разумееш, каму сапраўды патрэбны ты, а каму нешта ад цябе. Апошнія доўга не затрымліваюцца, ідуць шукаць чарговую "каханку". І спадарожнага ім ветра... А маё мне будзе.

**Алена К., студэнтка, 21 год.**

-- Яшчэ з гадкоў шаснаццаці я паставіла перад сабой мэту: першым будзе толькі каханы, альбо няхай наогул ніхто. Так і чакаю да цяперашняга часу свайго адзінага і непаўторнага.

На жаль, хлопцаў пасля дваццаці, захаваўшых сваю цнатлівасць, мне сустрэць так і не давялося. Ці, можа, саромеюцца пра гэта сказаць, бо кожны з іх лічыць сябе сапраўдным мужчынам. Хіба што ў наступны раз наведаю які манастыр?..

**Наталля БЕРАЗОЎСКАЯ**

***...Не от мира сего... (Библия)***

# Эти сумасшедшие американцы...

## — А мы? —

КОГДА я вышла из церкви, Дух Святой сошел на меня. Он был такой сильный, что я упала прямо на улице. Люди думали, что я пьяна. Увидев милицию, я пыталась встать. Но услышала вдруг тихий голос Иисуса: "Не бойся никого, я рядом с тобой".

Ну что можно подумать об авторе этих строк? Известное дело: крыша поехала. Но в том-то и дело, что не со мной это было. Сие свидетельство довелось слышать во время служения в церкви Иисуса Христа из уст симпатичной девушки. Впрочем, не она одна стала "жертвой" Святого Духа. В тот день на улице Матусевича (там находится церковь), падали многие. Двоих, точно помню, выносили на руках из здания, некоторые с осоловелыми глазами шли сами, громко распевая веселую песенку "Иисус -- наш господь".

Словом, Церковь Иисуса Христа повеселилась. Главным же "виновником" народных гуляний на улице Матусевича оказался американский пастор самой большой во Флориде церкви Пол Зинк, приехавший в Минск со своей супругой и группой христиан-подростков. И все пять дней их служения из церкви доносились аплодисменты, ликующие песнопения и громкий-громкий смех -- то Дух Святой "косил" стройные ряды евангелистов.

-- И это называется церковь! -- качал укоризненно головой смеющийся Пол Зинк. -- Ох и "сумасшедшие" же эти американцы...

Свое желание поговорить с пастором я смогла осуществить не сразу. Желающих "вкусить" Духа Святого было очень много: не успевали от прикосновения Пола упасть одни, как тут же подходили другие и их постигала та же участь. И вот наконец все страждущие удовлетворены, и, слегка уставший, изнемогающий от жары американец дает свое интервью.

-- Пол, скажите пожалуйста, почему вы приехали именно в эту церковь и с какой целью?

-- Церковь Иисуса Христа мы начали создавать вместе с ее пастором Вениамином Брухом еще в октябре 1991 года. С тех пор мы поддерживаем связь и все время молимся у себя в Америке за то, чтобы эта церковь поднималась, росла. Цель моей поездки -- не провозглашение какой-то доктрины, а превознесение Божьего Духа, который есть в нас. И который служит нам.

-- Ничего себе служба, если люди то заходятся неистовым смехом, то падают вдруг плашмя. Это что, так Богу угодно?

-- У Бога есть план -- сделать нас сильными. И это он делает через своего Духа! Где Дух Святой -- там свобода. А где свобода -- там всегда радость. Бог изливает на тебя радость, и смех сходит на тебя. Но к этой радости нужно относиться как к чему-то святому. Если у тебя нет радости в общении с Иисусом, ты слаб и тебя легко победить. Смех, радость -- это самый великий крик победы. И эту победу Бог тебе дает еще до того, как ты начал сражение.



-- Какой вам показалась Беларусь три года спустя? Произошли ли, на ваш взгляд, какие-либо существенные изменения?

-- О, да. Очень большие. Такая свобода в поклонении Господу, а ведь три года назад позволить себе это мог не каждый. И это меня очень радует. Сейчас по всему миру началось пробуждение, растет количество церквей, и у них появилась очень интересная возможность проповедовать Евангелие нетрадиционным образом. Я не говорю, что традиционное служение -- это плохо. Но новая форма дает более полное представление о Божием учении. Евангелие -- это Благая Весть, а не грустная. Это радость и прославление нашего Господа. Когда вам плохо, когда вы побиты, пойте Ему хвалу, прославляйте святое имя Его, и ваши проблемы будут решены.

-- Я проповедовал Евангелие в Китае, там ежедневно 35 тысяч человек принимают Иисуса Христа как своего личного Спасителя. Слышал, нечто подобное происходит в Центральной и Южной Америке. Но заслуги священнослужителей здесь никакой нет -- они лишь молятся. Это работа Святого Духа. Он касается всех людей, в чьих сердцах живет любовь к Богу. И тогда рождается церковь.

-- Многие годы в бывшем Советском Союзе церковь была попираема людьми, стоящими у власти. Насколько известно, у вас картина совершенно иная. Первый ее Президент Авраам Линкольн был глубоко верующим человеком, нынешний глава США Билл Клинтон также живет с Богом в сердце. У нас же попранные святыни только теперь начали возвращаться. В порядке горькой шутки достаточно вспомнить целование рук у священнослужителей перед фотообъективами во время президентской кампании. Не верой ли обусловлено процветание Америки или, скажем, той же Южной Кореи, где, кстати, самая большая в мире церковь -- 800 тысяч человек?

-- Я с вами согласен. Если нация почитает Бога, Бог благословляет ее и дает ей процветание. Америка очень богатая страна. 85 процентов всех миссионерских денег мы высылаем другим церквям. Что же касается президентов Америки, то, приходя к власти, каждый возлагает руку на Библию и клянется пред Господом вести свою нацию по пути справедливости. Это очень важно для американцев.

-- Может быть, и в нашей стране стоило бы изменить ритуал инаугурации, где бы Президент страны присягал на верность не Основному Закону, а Божьему?

-- (улыбается) Есть духовная сфера человека -- его дух. И есть Дух Бога, которым можно благословить нацию. Поэтому не важно, кладет ваш Президент руку на Библию или нет. Главное -- его сердце должно быть обращено к Всевышнему. И тогда он и его народ будет благословлен.

-- Ваша христианская группа, в который три ваших сына-миссионера, посещала больницы Минска, летние лагеря скаутов, показывала пантомимы. Как вы думаете, оставили американцы после себя какой-то след?

-- С помощью пантомим о жизни Иисуса Христа мы преодолеваем языковой барьер. Дети это очень хорошо воспринимают, и, как следствие, за три дня их общения 1400 человек приняло христианскую веру. Это говорит о состоянии сердец молодежи в Беларуси, они кричат, взывают к Богу и находят к Нему путь. Но это только начало.

-- С какими мыслями вы возвращаетесь к себе домой в Америку?

-- Еще совсем недавно между нашими странами была завеса. А сегодня такой дружбой светятся глаза ваших людей и такая открытость перед Богом. И мы всей душой желаем, чтобы Слово Божие приходило и в сердца ваших людей. Тогда и благословения придут на вашу землю. Мы на это очень надеемся.

Но не только надежду на лучшие времена увезли американцы. На прощание пастор Церкви Иисуса Христа Вениамин Брух вручил гостям сувенир в виде.. государственного флага Беларуси.

-- Это не просто флаг, -- сказал он, -- Это флаг пробуждения: красный цвет полотнища символизирует кровь Иисуса, которой он искупил наши грехи, а белые цвета -- результат его работы на пути наших стран к Божиему Царству. Царству праведности, мира и радости.

Да будет так!

**Ася ТРЕТЮК, специально для "БМ"**

**— Good bye, лета! —**

# Іван-таракан у скаўтскім летніку

Жыў-быў Іван. Не царэвіч, але і не дурань. Хлопец быў малады, даўганогі, ды, нажаль, палітычна неадукаваны. Працяглы час не пакутваў Ваня з-за ўласнай "беспартыйнасці", але неяк спакваля пачаў прыходзіць да меркавання, што трэба тэрмінова вызначацца, бо, калі застацца па-за спрэчкамі, то можна потым пазбавіцца долі пры падзеле маёмасці пераможаных. Па ўзросце Іван у прэзідэнты не пхнуўся ды, прынамсі, вялікімі амбіцыямі не валодаў і душэўную раўнавагу меў выключную. Да таго ж юны ўзрост дазваляў выбіраць паміж піянерамі, нефармаламі і ...скаўтамі. А тут выпадак падвярнуўся: паспрабаваць жыцця скаўтскага (піянеры не ў модзе, нефармалам быць --не зусім прыстойна). Ванечкава цётка-чараўніца ўладкавала яго на працу (праўда, толькі тараканам на кухні) і адправіла пляменніка адпачываць у лес, у летнік. Так трапіў наш Іван-таракан у першы нацыянальны "Джэмбары"...

Пачнем з таго, што атрады беларускіх скаўтаў завуцца "харугвы" (чыста славянская традыцыя). Дэвіз -- "Бог і Бацькаўшчына". Дарэчы, рэлігія адыгрывае немалую ролю ў выхаванні падлеткаў: зранку, ўвечары і перад абедам абавязковая малітва. Але абвясціць нешта -- гэта яшчэ не абавязкова паслядоўна выконваць. Агульныя набажэнствы ў летніку, напрыклад, набывалі адценні пэўнай буфанады (магчыма, ў гэтым была "віна" мілага ў жыцці, але смешнага ў ролі святара навучэнца Івана-Франкоўскай духоўнай семінарыі, якога запрасілі ў "Джэмбары" арганізатары). Больш дакладна выконваўся рэлігійны абрад у маладзечанскай і гарадзенскай харугвах, і тое дзякуючы хутчэй сталым кіраўнікам харугваў, а не свядомаму імкненню да Бога саміх скаўтаў.

Гасцямі беларускіх скаўтаў былі амерыканцы і тыраспальцы (Малдова). Як высветлілася, юнакі з Тыраспалю ўвогуле не маюць дачынення да скаўтаў, а займаюцца звычайным спартыўным арыентаваннем і пакуль скаўтамі рабіцца не збіраюцца. Пра амерыканцаў поўзалі "плёткі" спецыфічнага гатунку. Іх атрад існуе каля 25 гадоў, і за гэты час, нібыта, стаў значна больш цывілізаваны. Казалі, што за амерыканцамі возяць душ і драўляныя насцілы пад палаткі (апошняе, дарэчы, лепш, чым абдзіраць яліны), што ядуць яны адны вітаміны і спортам амаль не займаюцца. Плёткі -- справа суб'ектыўная, як, між іншым, і людзі. Амерыканцы пабылі ўсяго суткі, але ўладкаваліся даволі ўтульна. І магу вас упэўніць, што ім не прыйшлося ламаць яліны, каб вада не падцякала пад палатку. Прадстаўнікі тэлебачання таксама скіроўвалі сваю ўвагу пераважна на гасцей, а сваімі суайчыннікамі зацікавіліся толькі пасля абуранага звароту аднаго з арганізатараў летніку.

Увесь час мне чамусьці здавалася, што гэты беларускі "Джэмбары" --хутчэй не злёт скаўтаў, а звычайны турыстычны. "Паласа перашкод" --відовішча вельмі цікавае і займальнае, нават для такога далёкага ад турызму чалавека, як я, -- выглядала больш арганічна і натуральна, чым набажэнства. Магчыма, усе "недапрацоўкі" мэтазгодней было б вытлумачыць маладым узростам скаўтынгу на Беларусі, якому ўсяго 3-4 гады. Але калі гэтага часу было недастаткова для добрай арганізацыі першага нацыянальнага "Джэмбары", то для развіцця барацьбы за ўладу --больш чым трэба.

Па-першае, існуюць дзве асобныя і, наколькі я зразумела, супрацьпастаўленыя адна адной арганізацыі: "Аб'яднанне беларускіх скаўтаў" (за жыццём якога мы і спрабуем зараз назіраць) і "Союз скаутов Беларуси" (які наладзіў свой злёт паралельна злёту АБС). ССБ узнік крыху раней за АБС на рэштках камсамола і карыстаецца падтрымкай дзяржавы. Адно з галоўных адрозненняў -- рускамоўнасць плюс "інтэрнацыяналізм" у форме цягі да Масквы. АБС існуе на сродкі фонда "Мы -- дзецям", Камітэта па справах моладзі пры Савеце Міністраў, Маладзечанскага райвыканкама і выпадковых мецэнатаў. Нічога не магу сказаць пра ССБ, а ў АБС жыццё віруе, і, мяркуючы па асобных прыкметах, даволі эмацыянальна. Так, я на ўласныя вушы чула "прыстойна-дыпламатычную" размову паміж двума "лідэрамі", адзін з якіх параіў другому прагуляцца ў месца хоць і недалёкае, але ж дужа непрыемнае. Ну што ж -- і не такое чуем у транспарце. Але месцам высвятлення адносін быў абраны чамусьці амерыканскі лагер. І калі нават гэта не спыніла "буру ў шклянцы вады", дык шаноўныя апаненты маглі б падумаць пра сваіх жа выхаванцаў, якія круціліся вакол іх (некаторым, між іншым, споўнілася ўсяго па шэсць-восем гадоў!). Для скаўтаў, якія не павінны лаяцца нават у думках, прыклад "дастойны пераймання".

Сумненька ўсё гэта... Адзінае, што падтрымае і выратуе тэарэтычна неблагое пачынанне -- шчырая вера саміх падлеткаў у тое, што скаўтынг ім вельмі патрэбны, што іх сябры-скаўты -- самыя верныя ў свеце, што калі-небудзь усё будзе значна лепш. Юнакі і дзяўчаты, з якімі я паспела пасябраваць, прызналіся, што гэта нейкі няўдалы летнік, што, напрыклад, зімнік у Баранавічах быў цікавейшы.

Нешчаслівая мая зорка! Ад усяго сэрца хацелася б захапіцца новай ідэяй, прапанаваць юнакам новую "школу жыцця" (які ні ёсць штамп, але сэнс мае даволі дакладны). Ды... Недзе ёсць у мяне нядабразычлівы нячысцік, які падклаў каварную свінню -- замест арыгіналу падсунуў пародыю. Будзем спадзявацца, Іван, тады таракан, бачыў нешта іншае, значна больш цікавае і чыстае...

**Ірына ШАЎЛЯКОВА, спецыяльна для "БМ"**

Сквозь призму социолога

# "СУПЕРМАРКЕТ" ПОД... СЕЛЬМАГ

"А почему бы вам не написать о том, как человек, приехавший из нормального общества, воспринимает нашу действительность?" С таким предложением обратилась ко мне "Беларуская маладзёжная", когда я выразил желание написать статью для этой газеты. Я согласился легко -- слишком легко. Действительно, а почему бы не описать Америку с ее удобными дорогами, большими магазинами, множеством автомобилей, хорошими просторными домами; не забыть бы упомянуть о том, что клубнику можно кушать и в июне, и в январе, и что в магазине, в аптеке, в кафе первые слова, которые вы услышите, будут: "Чем могу быть вам полезен?" Затем сравнить все это богатое и по-своему красивое удобство с Беларусью --грязными улицами, очередями за продуктами скверного качества, толчеей в общественном транспорте, тесными квартирами, отсутствием горячей воды в жаркие летние месяцы и многими другими неудобными и некрасивыми вещами, которые мы видим на каждом шагу. А потом так легко вынести вердикт: богатая Америка -- нормальное общество, а бедная Беларусь --ненормальное. Одним словом, "так дальше жить нельзя".

Но что-то не нравится мне в заманчивой легкости такой схемы. Во-первых, наверное, белорусским читателям уже оскомину набили такого рода сказки о молочных реках и кисельных берегах в далеких заморских странах. Ничего кроме чувства собственной неполноценности еще одна такая сказка не даст.Может быть, только еще усилит уже существующий (и давно) миф об Америке как о беспроблемной стране. И без того слишком многие наши соотечественники уподобляются Дику Уиттингтону -- герою средневековой английской сказки, который верил, что в Лондоне улицы вымощены золотом, и очень удивился, увидев, что некоторые из них не вымощены вообще. По аналогии не стоит думать, что в Америке на деревьях растут доллары. На деревьях там растут листья, а доллары находятся в руках людей, которые очень неохотно с ними расстаются.

Во-вторых, следует быть весьма осторожными с понятием "нормальный". Что есть норма? Правомерно ли называть нормальным то, что нам нравится, и, соответственно, ненормальным то, что нам не нравится? Представьте себе следующую картинку: в магазине вы видите человека, который покупает ветчину и просит ее нарезать, и при этом удивляется, что продавец делает это не в резиновых перчатках. Очевидно, ваша реакция будет такой: "Да он же ненормальный!". Конечно, вам хотелось бы, чтобы ветчину нарезали по вашему требованию и делали это чистыми руками. Однако вы признаете, что это не входит в рамки существующих в данном обществе норм.

Впрочем, нормы не являются неизменными, особенно в нынешнем постсоветском обществе. Посмотрите, например, как изменяется отношение к частному бизнесу. Десять лет назад эта деятельность была противозаконной и рассматривалась большинством населения как абсолютно противозаконная. Пять лет назад целесообразность и "нормальность" частной деловой активности уже не вызывала сомнений, хотя и с оговорками и ограничениями. Сегодня лозунг "Обогащайтесь!" находит все больше и больше сторонников. Наиболее удачливые пионеры частного предпринимательства могут служить объектами зависти, но вовсе не потому, что сегодняшние социальные нормы исключают принципы обогащения любой ценой, а потому что завистники оказались менее удачливы или менее активны в погоне за богатством. Сегодня карьера частного бизнесмена рассматривается как нормальный путь к успеху, как не столь уж давно -- карьера партийного функционера.

Вполне логично предположить, что новая элита, выросшая на пустом месте, будет устанавливать свои собственные социальные нормы, по крайней мере, в своей среде. Эти нормы им никто не навязывает, более того, они сами все больше становятся моделью для подражания. Давайте посмотрим, что же это за нормы.

Проспект Машерова. Жаркий летний день. Дорогой магазин, один из тех, о которых иногда появляются сдержанно-хвалебные репортажи в газетах ("конечно, цены могут показаться слишком высокими, но зато вы знаете, что купите здесь продукцию самого высокого качества..."). При входе в магазин вы спотыкаетесь о ступеньку -- никто не позаботился о том, чтобы избавиться от нее или по крайней мере поставить предупреждающий знак. В магазине вас встретят скучающие лица продавцов, духота и кое-как расставленные никелированные вешалки с одеждой. Интерьер по-спартански прост. Подойдите к любой вешалке, к любой витрине, и вы увидите цены, соперничающие с такими магазинами, как Brooks Brothers, Filene's, Suks Fifth Avenue. Десяток мужских пиджаков, цены от 100 до 250 долларов, польские летние костюмы -- 150 долларов, двубортные мужские костюмы -- по 300 долларов и выше. Французские духи -- два-три наименования по ценам от 35 долларов и выше. Посетители смотрят на товар, продавцы смотрят на посетителей. Над всем этим, в душном и влажном воздухе стереофоническая система (цена здесь 660 долларов, цена в США -- 399 долларов) разносит слова песни: "Дайте медный грошик, господин хороший, к вам вернется рубль золотой".




Еще один магазин. Когда-то в нем продавали книги. Правда, среди книг немалую долю занимали труды классиков марксизма-ленинизма, но и помимо них было на что посмотреть. Сейчас книжный магазин занимает примерно одну треть своей бывшей площади, и 90 процентов занимают книги с названиями вроде "Кровавые деньги" или "Счастливая проститутка". Две трети магазина -- товары для новой элиты. Выпивка и закуска (не еда, а именно закуска -- маслины, сельдь в винном соусе, салями и т.д.), цены не ниже, чем на Западе. Тут же, в этом же отделе: брючные ремни, бумажники, сумки, обувь. Продавцы смотрят на покупателей, покупатели смотрят на продавцов, и сверху, с полки, на них смотрит огромная, в человеческий рост, игрушечная обезьяна. Душно и жарко. Стереосистема услаждает ваш слух песней, где рефреном повторяется: "Я уйду служить в ОМОН". Поет женщина.

Книги, продукты, галантерея, обувь под одной крышей, в одном зале, кое-что -- в одном отделе. Не правда ли, что-то напоминает? Нет, не хороший магазин в цивилизованной стране. Напоминает все это сельпо, куда завезли "Счастливую проститутку", водку "Абсолют" и подозрительного качества итальянскую обувь (не все, что сделано в Италии, отличается высоким качеством).

Чуть дальше, возле гостиницы "Планета", стоит восхитительный "Мерседес". В отличие от товаров в описанных магазинах, несомненно хорошая вещь, одна лишь покраска занимает много часов высококвалифицированного труда. И вот по этой краске трое мальчишек усердно размазывают грязной тряпкой воду из грязного ведра. Подходит хозяин машины, дает мальчишкам десятидолларовую бумажку, садится и отъезжает в своем "Мерседесе", покрытом равномерной матовой пленкой грязи. И юные мойщики, и их клиент выглядят вполне довольными.

Три картинки с натуры. Свидетельство дурного вкуса? Не только. Это еще и образцы тех социальных норм, которые создала новая элита и которые довольно часто (и ошибочно) ассоциируются с западным образом жизни, западными стандартами потребителя, влиянием западной культуры. Одни воспринимают такого рода штампы безоговорочно положительно, как свидетельство интеграции постсоветского общества в Европейскую цивилизацию, другие -- столь же безоговорочно отрицательно, как подчинение самобытной славянской культуры западной экспансии.

Но давайте посмотрим еще раз на приведенные выше картинки. Что западного найдем мы в них? Западные товары. Но товары, произведенные по западным стандартам, потребляются и в Саудовской Аравии. Делает ли это ее культуру более западной? Вряд ли. Точно так же и наши примеры не свидетельствуют безоговорочно о том, что даже наиболее динамичная и свободная в выборе часть нашего общества сознательно устанавливает социальные нормы, обычно ассоциирующиеся с западной цивилизацией.

Я уже упоминал, что цены в описанных мной торговых точках сравнимы с ценами в очень дорогих магазинах США. Но за что платят покупатели в Brooks Brothers или Filene's? Цена собственно товара далеко не исчерпывает всю структуру розничной цены. Платят и за то, что магазин находится в престижном районе, где арендная плата очень высока, и за отлично и со вкусом оформленный интерьер, и за очень большой выбор товара, и за вежливость и доброжелательность квалифицированных продавцов. Все это стоит денег, все это включается в розничную цену, соответственно, за все это (а не только за сам товар) покупатели готовы платить. Фактически, они покупают не только товар, но и целый комплекс связанных с ним услуг.

Для большинства жителей Беларуси поездка на Запад и покупка товаров там в дорогих магазинах -- несбыточная мечта. Но то же самое можно сказать и о магазинах, которые я описал. Эти магазины -- для богатых людей, и только для них. Их покупатели могут поехать за границу (и ездят), сравнить цены и купить товары лучшего качества в красивых и уютных фешенебельных магазинах. Если б они действительно делали это регулярно, белорусские коммерческие магазины прекратили бы свое существование. Однако, не делают. И не потому, что не могут, а потому, что не хотят. Значит, им нравится обстановка, которая мне показалась неудобной и некрасивой, нравится убогий выбор товаров сомнительного и просто плохого качества. Почему деловые и богатые люди, единожды убедившись в низком качестве работы малолетних мойщиков автомобилей, не почувствовали нарождающийся спрос со стороны владельцев "Мерседесов" и BMW и не вложили деньги в создание сети хороших моек для автомобилей? Очевидно, нет этого спроса, очевидно, что-то в манипуляциях мальчишек с грязными ведрами устраивает бизнесменов в красивых машинах.

На наших глазах происходит формирование социальных норм новой постсоветской элиты, и это вовсе не обязательно нормы, присущие цивилизованному обществу. Платить за убогий выбор и скромное обслуживание столько же, сколько за богатый выбор и первоклассное обслуживание -- нормально. Что же скрывается за этой нормой?

Вспомните униформу высших партийных чиновников: костюм и пальто строго ограниченного выбора фасонов и из строго ограниченного выбора тканей, ондатровые шапки, вошедшие не в один анекдот брежневских времен. Униформа подтверждала статус того, кто ее носит, указывала на принадлежность к особой социальной группе, ассоциировалась с властью. По аналогии, не лежат ли те же самые мотивы в основе ограниченного ассортимента белорусских элитных магазинов? Ведь в этом случае легче распознать по одежде, что ее носитель принадлежит к элите, чем если бы выбор измерялся сотнями наименований. Потребление новой элиты, ничуть не меньше, чем старой, служит целям иллюстрации своей власти. С этой точки зрения, хороший дорогой костюм, приобретенный за тридевять земель, намного хуже выполняет эту функцию, чем не очень хороший и очень дорогой костюм, купленный поблизости; ведь последний идентифицировать неизмеримо легче.

Вот и объяснение некрасивых и неудобных интерьеров дорогих магазинов -- не важно качество услуги, связанной с покупкой, намного важнее то, что эта услуга доступна лишь ограниченному кругу новой элиты.

Высокомерно-скучающие лица продавцов тоже объяснимы. Продавец в таком магазине тесно соприкасается с новой элитой и чувствует себя намного ближе к ней, чем простой смертный. Соответственно, продавец считает, что у него есть все основания выглядеть облаченным властью, а ведь вежливый интерес к покупателю может быть истолкован как слабость. Кроме того, 90 процентов посетителей подобных магазинов все равно ничего не купят. Так что не стоит ради них и беспокоиться. Думаю, что все это весьма похоже на нормы поведения торговых работников советского периода, которые тоже чувствовали себя причастными к сильным мира сего.

Владельцам дорогих автомобилей не нужны нормально оборудованные мойки. Ведь в них процесс мытья автомобилей становится простой скучной технической операцией. Нельзя будет уже под взглядами случайных прохожих царственным жестом протянуть купюру в сколько-то долларов малолетнему мойщику. А ведь именно эта операция снова и снова утверждает дающего в статусе человека наверху общественной иерархии, человека, облаченного властью. Еще раз мы видим, что иллюстрация власти в процессе потребления является нормой новой постсоветской элиты.

В этой статье я затронул лишь очень небольшую часть сложной системы социальных норм, регулирующих поведение индивидуумов в обществе. Я намеренно выбрал ту социальную группу, которая по своему положению и в силу своей молодости как общественного явления, казалось бы, свободна в выборе набора социальных норм. Долгое время мы думали, что нелепость нашей жизни вызвана ограничениями, накладываемыми репрессивной структурой советского общества и что стоит только снять эти ограничения, путь к достойной и цивилизованной жизни будет коротким и легким. Сейчас ограничения сняты, но из под их обломков вышли такие же homini sovetici, которые прекрасно чувствовали себя и десять, и пятнадцать, и двадцать лет назад. И даже те из них, которые более свободны, чем прочие, находятся в плену норм поведения, возникших еще в советский период и ставших особенно ярко видными сегодня.

*Андрей САВЧЕНКО -- наш соотечественник, четыре года работает над диссертацией в США*

# Музыка в стиле "БМ"



*"В городе Стокгольме, на самой обыкновенной улице, в самом обыкновенном доме живет самая обыкновенная шведская семья по фамилии Свантенсон..." "Ну вот, -- скажете Вы, -- теперь они в детство впали, книжки детские цитируют, Карлсоны, крыши, малыши и всякие такие дела". Спокойствие, только спокойствие! Все ваши злобные нападки и попытки обвинить Нас (думайте, с кем дело имеете!) в НЕКОТОРОЙ инфантильности не имеют под собой никакой почвы. Кто на свете лучший специалист по шведской "детской" литературе?! Во-первых, готовы спорить на пятиэровую монетку, что, даже если вы красивый, умный и в меру упитанный мужчина в самом расцвете сил, Вы все равно не прочь перечитать эту, как Вы говорите, "детскую" книжку. А во-вторых, сами подумайте, какой детский писатель будет писать в детской книжке об обыкновенной "шведской семье"? Осталось надеяться, что Вы хотя бы не обвините нас в нездоровой пропаганде здорового секса. А если Вас и этот вопрос не интересует, то подобные неприятности -- пустяки, дело житейское, и расстраиваться нечего, перечитайте лучше "КАПИТАЛ" Карлсона, нет, Маркcона, нет, извините, МАРКСА и его друга МАЛЫША ЭНГЕЛЬСОНА. А мы тем временем продолжим разговор о шведских семьях. К примеру, как результат деятельности четырех таких семей, в пятидесятых годах нашего столетия появилось на свете четверо малышей, (и, заметим, ни одного Карлсона), которые несколько позже стали известны миру, как квартет ABBA.*



Так как ABBA -- это квартет, то в нем работало ровно четыре человека. Это Анни-Фрид Лингстад Фредриксон, родившаяся 15 ноября 1945 года в норвежском городе Нарвик, (она была единственным членом группы не шведской национальности), Агнета Фельтског (день рождения 5 апреля 1950 года), родившийся 25 апреля 1945 года в Гетеборге Бьерн Кристиан Ульвеус и Бенни Андерсон, родившийся 16 декабря 1946 года в Стокгольме.

К моменту образования группы ABBA все четверо были довольно известными музыкантами с длинными послужными списками. Сначала произошла встреча Бьерна Ульвеуса и Бенни Андерсона. Их постоянное сотрудничество началось только в 1970 году, хотя впервые познакомились они в 1966 году. В 1971 году они выпустили синглы "She is My Kind Of Girl", "Hello, Old Man", "People Need Love" и приступили к записи своего первого альбома. А для работы над ним пригласили Агнету и Анну Фрид, будущих участниц ABBA, для подпевок. Обе певицы к тому времени были хорошо известны шведским слушателям. Так, Агнета начала свою профессиональную карьеру в 15 лет, а в 17 уже подписала контракт со шведским филиалом корпорации CBS Records, а чуть позже, на съемках телевизионного шоу познакомилась с Бьерном. Анни-Фрид впервые появилась на сцене еще в 13 лет, участвуя в международных конкурсах юных вокалистов в Японии и Венесуэле. 3 сентября 1967 года была приглашена на одну из музыкальных передач шведского телевидения. После того, как она исполнила роль в местном телесериале, ее слава стала почти такой, как слава Вероники Кастро в нашей стране. В 1973 году Агнетта, Бенни, Бьерн и Анни-Фрид окончательно объединились в одну группу под названием ABBA. Название предложил продюсер Стиг Андерсон: (ABBA -- это начальные буквы собственных имен музыкантов группы). В том же 1973 году выходит миньон с песней "Ring-Ring", который расходится большими тиражами и попадает в европейский хит-парад. С этой песней ABBA выступала на конкурсе Евровидения, но успеха не добилась. О группе ABBA впервые заговорили в 1974-м году после победы на конкурсе Евровидения в английском городе Брайтоне. Песня "Waterloo", которую они представили на конкурсе, почти сразу после телетрансляции заняла первые места в европейских странах и стала шестой в американском хит-параде. Однако молодежь считала конкурс Евровидения немолодежным, и приняла группу только после сингла "SOS". Вскоре после него вышли песни "Mamma Mia", "Fernando", "Dancing Queen", которые, благодаря своей легкости, танцевальности и праздничности моментально стали хитами и утвердили группу на первом месте среди поп-групп всего мира. .

За время своего существования группа добилась феноменального успеха. Диски с их песнями продаются до сих пор, тиражи достигли 270 миллионов. Самыми значительными пластинками AB.BA критики считают "Waterloo" (1974), "ABBA" (1975), "Voulez Vous" (1979).

Продюссер Стиг Андерсон (кстати, он являлся главой фирмы Polar Music International AB, на которой записывалась ABBA, оборудовал для музыкантов лучшую на то время студию в Европе. Постепенно концертная деятельность была сведена к минимуму, так как невозможно было добиться адекватного звучания в условиях залов и стадионов. Тем не менее, мировое турне 1977 года прошло с успехом. Квартет сопровождал коллектив из четырнадцати аккомпанирующих музыкантов и множество технического персонала. Во время их работы в Австралии был отснят полнометражный музыкальный фильм "ABBA", который с успехом прошел на киноэкранах всего мира.

После распада группы в 1984 году музыканты занялись сольной деятельностью, которая не была особо успешной. Анни-Фрид впрочем, в 1982 году выпустила один довольно неплохой альбом под названием "Something Goin On". Причиной успеха, по-видимому, послужило то, что его продюсировал Фил Коллинз.

В 1986 году была предпринята осторожная попытка воссоединения. При помощи малоизвестной группы "Jemini" Ульвеус и Андерсон записывают мюзикл "Chess", но и эта попытка заканчивается крахом. Зато в бизнесе музыканты процветают, получая неплохие деньги за все еще раскупаемые и переиздаваемые альбомы ABBA.

В 1992 году на Polar Music выходит альбом-сборка "Gold" с лучшими вещами группы.

Кстати, и все на этом. Ну, как статейка?

**"О, это было ужасно... -- сказала она. -- Но подумай, какая передача для телевидения могла бы из этого получиться! Фрида в жизни не видела ничего похожего!"**

**(А.Линдгрен "Малыш и Карлсон, который живет на крыше", Челябинск, ЮРИСПЕРИТ 1992 г., стр.182).**

**Г.З.**

❖ ❖ ❖

УЖАС, просто ужас какой-то... Что это творится вокруг? Это же с ума сойти можно. Какой пример получает наша милая, нежная, еще не развращенная молодежь. Ведь обо всем этом не только петь, об этом вообще даже говорить нельзя, даже шепотом в темной комнате, закрыв глаза и заткнув уши! Вы думали когда-нибудь, что они проповедуют, эти волосатые, или совсем не волосатые - - впрочем, какая разница, главное -- понять, о чем они поют, если это вообще можно назвать поют -- кричат, орут, вопят, говорят или даже вообще просто шепчут? Это же бред! Или не совсем бред. Или совсем не бред -- впрочем, какая разница! Главное, что это страшно, пошло, мерзко и вообще -- ну ужас, просто ужас какой-то...

Вот например: "Эротика. Эротика. Положи свои руки мне ..." Бр-р. Фу. Эротика, понимаете ли. Вот в наше время была эротика, эх...

Или вот еще: "Я любовью занимаюсь с горными львами и сплю на раскаленном железе", -- это поет, как вы уже поняли, мазохист и зоофил, ну и, соответственно, пьяница, наркоман, матерщинник, прогульщик, двоечник и вообще очень нехороший человек Лемми Килмистер, это вы только подумайте, как же он только мог так их, братьев наших меньших...

А эти, как их там, "А-Сэ-молния-Дэ-Сэ", а, что поют? "Шоссе в Ад", понимаете ли... Это ж надо, а? А если это шоссе Минск-Москва? Это что же наш дорогой и любимый потенциальный партнер-россиянин подумать может? Обидится ведь, скажет, Москву "адом" обозвали... А как же мы тогда без рублевой зоны...

А эти, как их... "Тараканы", что ли? Нет, "Скорпионы". "Ветер перемен", понимаете ли... Это куда они клонят? Зачем нам перемены? Мы и этого с таким трудом выбрали...

А какие у них названия? Вы слышали? "Сибирская язва", "Грустные плохие мальчики", "Тенденция к самоубийству" и т.д., и т.п. Ужас, просто ужас какой-то...

Или вот еще, пожалуйста, название. "CREEDENCE CLEARWATER REVIVAL"? Тут надо еще разобраться...

А на самом деле тут и разбираться нечего -- это очень и очень просто.

Все началось в Соединенных Штатах, а если точнее -- то в Калифорнии в небольшом городке Эль-Керрито, который расположен недалеко от Сан-Франциско. В этом городке есть высшая школа, а в высшей школе есть студенты, и вот в 1959 году один из них, по имени Том Фогерти, родившийся 9 ноября 1941 года, почувствовал в себе непреодолимую тягу к чему-то высокому. Заняться альпинизмом он не смог из-за отсутствия гор, и потому он вместе со своим братом Джоном Фогерти все свое свободное время отдает двум... Нет, не девушкам, а гитарам. Чуть позже к ним присоединился Стью Кук со своей бас-гитарой (он, кстати, родился 25 апреля 1945 года), и Дуг Клиффорд по прозвищу "Косно" (день рождения -- 24 апреля 1945 года), который занялся стукачеством (по барабанам, разумеется). Вокалистом в группе стал Джон Фогерти благодаря наличию своеобразного хрипловатого голоса.

Так, в принципе и собрались будущие CREEDENCE CLEARWATER REVIVAL, кумир миллионов, но на то время Джон Фогерти еще не проявил своих поэтических и композиторских способностей в полной мере, и потому лидером стал его брат Том. Группа так и назвалась TOM FOGERTY AND THE BLUE VELVET, и первые их концерты проходили на школьных вечерах, а позже -- на местных дискотеках. Мода на такие длинные названия держалась недолго, и вскоре группа сократилось название до THE BLUE VELVET. Этому была и другая причина -- все более видное место в коллективе занимал Джон Фоггерти. Как оказалось, кроме гитары он первым смог освоить клавишные, гармонику и даже немного саксофон.

В 1964 году будущие CREEDENCE обращаются на студию звукозаписи "FANTASY RECORDS" с просьбой оценить их возможности. Сперва президент этой небольшой фирмы Соул Зенц наотрез отказался не только слушать, но и разговаривать с музыкантами, мол, финансовые дела и так идут из рук вон. Однако, как известно, упрямство -- второе счастье, и в конце концов прослушивание состоялось, а Соул Зенц увидел за молодой группой свое будущее состояние. В этом же 1964 году подписывается контракт о сотрудничестве с условием, что группа сменит свое название на GOLLIWOGS. Они согласились, хотя очень сомнительно, что им это понравилось -- "GOLLIWOG" в переводе с английского обозначает "пугало, уродец".

Как бы там ни было, контракт был подписан, причем такой, что за всю историю шоу-бизнеса это был наиневыгоднейший для музыкантов контракт. Согласно ему участникам группы пришлось отказаться от всех авторских прав на свои песни (все песни стали собственностью компании). И самое интересное: денежная часть договора была составлена так, что в результате они обязались не предъявлять "FANTASY RECORDS" финансовых претензий. Но тогда, окрыленные выходом в свет шоу-бизнеса, музыканты еще не думали о возможных последствиях своего поступка, тем более, что сразу после подписания контракта они получили единовременную сумму в размере 3 тысяч долларов с обязательством выплатить ее из своих будущих гонораров. Но тем не менее в результате музыканты получали гонорары меньшие, чем зарплата заурядных служащих звукозаписывающей компании, и в будущем CREEDENCE в прессе называли "Индустриальными рабами от рок-музыки" -- они буквально бедствовали, хотя были в тот период единственными клиентами фирмы.

"FANTASY RECORDS" во главе с ее президентом Соулом Зенцем торжествовало -- группа казалась довольно неплохой, тем более время для раскрутки было наиболее благоприятным -- набирала силу волна интереса к калифорнийским группам, а первые ласточки из Калифорнии постепенно становились динозаврами -- такими, как THE GREAT SOCIETY с солисткой Грейс Слик, BIG BROTHER AND THE HOLDING COMPANY с Дженис Джоплин и другие. Однако радость Зенца была преждевременной -- первые синглы GOLLIVOGS не то что "не пользовались успехом" -- они практически совсем не раскупались, провалился и единственный LP "GOLLIVOGS", и лишь только одна сорокопятка с песнями "Большая кареглазая девушка" разошлась небольшим тиражом.

Три года прошли в непрерывной работе, оставшейся почти никем не замеченной -- запись более 20 синглов, один LP, масса концертов -- и тогда в 1967 году группа решила еще раз поменять название -- на CREEDENCE CLEARWATER REVIVAL.

**1/2 Г.З.**

*Продолжение следует.*

## Марым, каб Прачыстая забрала ад нас усё нячыстае

28 жніўня Прачыстая (Спажа, Успленне) -- самае значнае свята ў канцы лета. Царкоўную назву "Успение" (вечны сон, смерць) тлумачылі ў народзе тым, што да гэтага дня спеюць розныя плады. Прачыстая была сапраўдным святам ураджаю, яна падводзіла вынік працы селяніна: "Свята Прачыста -- поле ўрачыста". З асаблівай жа пашанай казалі пра новы хлеб: "Прачыстая прынясе хлеба чыстага"; "Спажа -- хлеба дзяжа". Як Спас славіўся асвячэннем яблыкаў, так Прачыстая -- асвячэннем хлеба. Асвячонае жыта перамешвалі з астатнім і адкладвалі да наступнай сяўбы, каб новае збожжа добра расло.

***(Васілевіч У.А. Беларускі народны каляндар, -- Мн., Ураджай, 1993).***

## Вучымся гаварыць адзін аднаму кампліменты

### Авен

**ЯНА:** Аптымістка, ініцыятыўная. Для яе не існуе розніцы паміж мужчынскімі і жаночымі справамі. Яна здольная ўсё рабіць сама.

**ЁН:** Бескарыслівы рыцар. З жадання аднавіць справядлівасць здольны кінуць выклік любому, нават калі ведае, што той мацнейшы за яго.

### Цялец

**ЯНА:** Заўсёды акуратная, прыбраная. Цярплівая, цудоўная гаспадыня і кулінарка. Больш любіць прымаць гасцей у сябе, чым хадзіць у госці да кагосьці.

**ЁН:** Свой дабрабыт будуе ўласнымі рукамі -- паступова і трывала.

### Блізняты

**ЯНА:** Умее хутка наладжваць кантакты, але сябе ў цэнтр не ставіць. Абаяльная і прыемная ў зносінах. Здольна рабіць некалькі спраў адначасова.

**ЁН:** Валодае добрай памяццю, розумам, жадае ўсё спазнаць.

### Рак

**ЯНА:** З павышаным пачуццём справядлівасці, яе лёгка пакрыўдзіць, умее ацаніць чалавека з першага погляду.

**ЁН:** Здольны супераяжываць у бядзе, спачуваць, інтуітыўна прадбачыць сутнасць другога чалавека.

### Леў

**ЯНА:** Ласкавая, з пачуццём гонару і годнасці. Жадае быць у цэнтры ўвагі. Заўсёды працягне руку дапамогі іншаму.

**ЁН:** Адрозніваецца імкненнем да самавыяўлення. Выпраменьвае моцную жыццёвую сілу.

### Панна

**ЯНА:** Любіць працу, патрабавальная да сябе. Любіць, калі яе шануюць і ўхваляюць за справу.

**ЁН:** Незвычайны працаўнік. Валодае прыроджаным пачуццём абавязку. Да сябе і іншых крытычны.

### Вагі

**ЯНА:** Практычная. Прыўносіць раўнавагу ў любую супярэчлівую сітуацыю.

**ЁН:** Ніколі не дазваляе грубасці і хамства. У ім абвострана пачуццё справядлівасці, але сам ён кулакамі не дзейнічае.

# Жыццё ў стылі "БМ"

### Скарпіён

**ЯНА:** Гатова сустрэць любыя ўдары лёсу, бо ўпэўнена ў сабе і сваіх уласных сілах. У пачуццях верная і пастаянная.

**ЁН:** Гераізм у экстрэмальных сітуацыях робіць яго лідэрам. Усе важныя рашэнні прымае самастойна, без падказак. Выдатны псіхолаг.

### Стралец

**ЯНА:** Няўрымслівая падарожніца, марыць убачыць іншыя краіны, каб пазнаць усе культуры свету. Усё жыццё імкнецца пашырыць свой светапогляд.

**ЁН:** Валодае выдатнымі арганізатарскімі здольнасцямі, сумленны. Можа цалкам прысвяціць сваё жыццё адной-адзінай справе.

### Казярог

**ЯНА:** Цвёрдасць і трываласць дапамагаюць ёй у цяжкіх сітуацыях стаяць да канца. Яна разлічвае толькі на ўласныя сілы.

**ЁН:** Не існуе нічога такога, каб ён не дасягнуў, калі паставіць гэта сваёй мэтай -- для гэтага ў яго дастаткова ўпартасці. Яму ўласціва пачуццё адказнасці.

### Вадалей

**ЯНА:** У іншых паважае асобу, нікому не навязвае сваю думку, ад якой сама ніколі не адмовіцца.

**ЁН:** Пры вялікай колькасці знаёмых, сяброў у яго не так ужо і шмат, затое яны -- на ўсё жыццё.

### Рыбы

**ЯНА:** Разумее боль іншых, здольна супераяжываць. Паняцце саперніцтва --не для Рыбкі.

**ЁН:** Міласэрны, яго альтруістычная натура поўная любові да ўсіх.

## У вольны ад беспрацоўя час шчы лапцем хлябаем

### Сялянская пахлёбка

Прамыйце пшано (2 ст. лыжкі) і варыце яго ў літры вады. Затым (хвілін праз 20) дадайце нарэзаную бульбу, затым зялёны гарошак і соль. Калі гародніна стане мяккая, дадайце 0.5 літра малака, праварыце, пакладзіце масла і зеляніну.

●●●

### Ляпёшкі з морквы

Для іх спатрэбіцца 1 шклянка нацёртай сырой морквы, 4 сталовыя лыжкі малака, 2 яйкі, 3 сталовыя лыжкі мукі, соль, цукар, алей.

Да нацёртай морквы дадаць яйкі, малако, муку, соль, цукар і ўсё перамяшаць. Смажыць да з'яўлення румянай скарынкі. Падаюць са смятанай.

Такія ляпёшкі можна рабіць з морквы і яблыкаў (1:1/2).

●●●

### Катлеты з балгарскага перца

Спячыце 1 кілаграм зялёнага перца, абярыце яго ад зярнят, здрабніце, разатрыце. Дадайце 1-2 яйкі, 250 г тварогу, чорны перац, здробненую пятрушку, соль. Дадайце да гэтай масы паніровачных сухароў і мукі столькі, каб атрымалася кансістэнцыя, прыдатная для прыгатавання катлет. Мокрымі рукамі зрабіце катлеты, памакніце ва ўзбітых яйках і смажце ў разагрэтым алеі. Падаваць трэба цёплымі, з салатай з агуркоў, памідораў і цыбулі.

## Якое жыццё -- такія і сны. (З сонніка Бісмы Бабаевай)

Хворых бачыць -- клопаты. Параненага бачыць -- павышэнне па службе. Убачыць чалавека, які спіць, -- добры шанц, шчаслівыя абставіны. Партрэт невядомага ці невядомай -- нечаканая дапамога. Блізнят бачыць -- хістанні (пакутлівы выбар правільнага шляху), неабходна зрабіць выбар. Жанчына-незнаёмка ў сне -- сімвал тваіх абставін і планаў, тваіх уяўленняў аб шчасці і няшчасці. Прыемная знешнасць, прыгажосць незнаёмкі -- радасць, шчасце, багацце. Непрыгожая жанчына -- галеча, няўдачы, спрэчкі. Натоўп прыгожых дзяўчат -- багацце, мір у душы. Старая жанчына -- да хваробы. Твае роздумы аб смерці. Злая старая -- ворагі будуць праследваць (падман). Кошку бачыць -- нядобра, нават белую, знак трывожнай актыўнасці. Кацянят бачыць -- да прыбытку. Сабаку, які выклікае сімпатыю -- добра. Якая выклікае антыпатыю -- дрэнна. Бачыць у сне сабаку, які не праяўляе да цябе інтарэсу, -- шчаслівы выпадак (прыбытак ад ворагаў). Сабачы брэх чуць -- небяспека (плёткі). Сабака на цябе брэша -- шкода. Сабака на цябе нападае -- вораг блізка. Сабака кусае да крыві -- варожасць з боку родных. Сабака кусае не да крыві -- варожасць з боку блізкага чалавека.

## Не гледзячы ні на што, жывем і не кашляем

(народныя сродкі ад кашлю)

Прыгатаваны сок рэпы з мёдам дапамагае ад боляў у грудзях і кашлю.

Гогаль-могаль (жаўткі яек, узбітыя з цукрам і ромам) таксама вельмі дапамагае ад кашлю, калі ўжываць нашчак.

Перамяшаць сок рэдзькі або морквы з малаком: палова сока і палова малака. Доза: па адной сталовай лыжцы шэсць разоў на дзень.

Ад сухога кашлю карысна рабіць уціранне ў грудзі такой сумесі: на 2 часткі драўлянага масла 1 частка нашатырнага спірту.

## Удыхаем ружы пах

Якая кветка можа параўнацца з ружай па вытанчанай прыгажосці, тонкім паху! А ці ведаеце вы, што любімая ўсімі ружа яшчэ і лекар?

Пялёсткі ружы валодаюць вяжучымі і танізуючымі ўласцівасцямі, яны ўжываюцца ў народнай медыцыне як замацоўваючы і кроваспыняючы сродак. У найбольшай меры гэтамі ўласцівасцямі надзелены бутоны. Збіраць іх трэба ў халаднаватую, сухую раніцу, сушыць у цені.

Адвар з пялёсткаў ружы -- эфектыўны сродак для паласкання горла пры ангінах.

Кампрэс дапамагае зняць галаўны боль, прыступ мігрэні.

Ласьён з пялёсткаў ружы (20 г на літр вады) ужываюць для звужэння пораў на твары.

Хочаце паспрабаваць мёд з ружаў? Заліце 80 г пялёсткаў палової шклянкі кіпеню, на 15 хвілін пастаўце на слабы агонь, потым суткі настойвайце. Затым дадайце 100 г мёду, добра размяшайце і кіпяціце, памешваючы на слабым агні, пакуль маса не стане аднароднай. Ружовы мёд валодае гаючымі якасцямі, мае непаўторны пах.

## Век жыві -- век вучыся

(Перад пачаткам новага навучальнага года парады вопытнага студэнта нявопытнаму выкладчыку)

Не шукайце сустрэчы са мной -- калі спатрэбіцеся, -- я сам вас знайду.

Будзьце тактоўнымі, не паўтарайце пытанне: калі я яго не пачуў, перавядзіце размову на іншую тэму.

Які экзамен я прыйшоў здаваць? Што за пытанне? Я ж не пытаюся ў вас, які экзамен вы прымаеце.

Вы бачыце мяне ўпершыню? Але ж я не вінаваты, што ўвесь семестр вы былі такім няўважлівым.

***Жыць у стылі "БМ" вас вучыць Бабуля Алена***



**"Беларуская маладзёжная"**
**Рэспубліканская грамадска-палітычная незалежная газета**
**Заснавальнікі**
**М. КАПЧОНАЎ і І. ЦІШЫН**

**Адрас рэдакцыі:**
**220134, Мінск,**
**вул. Якубоўскага, 15-1-77**
**Кантактны тэлефон: 57-00-43**
**Пасведчанне аб рэгістрацыі N 882**

**Падпісана ў друк 22 жніўня 1994 г.**
**Мінская паліграфічная фабрыка "Чырвоная зорка"**
**(Мінск, 1-шы Загарадны зав., 3)**
**Кошт праз "Белсаюздрук" 200 рублёў**
**Тыраж 20 тысяч экз.**
**Заказ N 1870**

**Галоўны рэдактар**
**Т. І. МЕЛЬНІЧУК**
**(НІЧЫПАРУК)**